# ГОЛАС ЦАРКВЫ

**РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ**

**Выдае Епархіяльная Управа Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Ню-Ёрку. Рэдагуе Калегія. Адрыс Рэдакцыі:**

**"The Voice of the Church", 254 Wyckoff St., Brooklyn, N. Y., 11217**

**Tel.: ULster 2-7552** **Цана 50 цэнтаў**

**№ 29** **ВЯЛІКДЗЕНЬ, 1969** **ГОД 15**


**БОЖАЙ МІЛАСЬЦЮ**
**СЬВЯШЧЭННЫ САБОР ЕПІСКАПАЎ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ НА ЧУЖЫНЕ**

*Да ўсечэснога Духавенства, прэпадобнага Манаства, і ўсіх багалюбівых вернікаў нашых на Чужыне й на Бацькаўшчыне прабываючых*

## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

*„ХРЫСТОС УВАСКРОС, уваскрэсьнем і мы" (2 Кар. 4, 14).*

І сказаў Хрыстос Апостолам: „Вы цяпер сумуеце, але Я зноў убачу вас, і ўзрадуецца сэрца вашае, і радасьці вашае ніхто не адбярэ ад вас" (Іо. 16, 22). І сталася! Пасьля Свайго Уваскрасеньня Ён зьявіўся Жонам-Міраносіцам, і прывітаў іх: РАДУЙЦЕСЯ; Мы можам толькі прыблізна ўявіць сабе гэтую радасьць іх, а пасьля й сьвятых Апосталаў, калі Хрыстос зьявіўся й ім, і прывітаў іх: МІР ВАМ!

І гэта Вялікодная радасьць ня толькі ўзмоцніла іх, перамагла ўсякі страх, але й дала ім сілу незямную, зь якою яны пачалі радаваць масы людзей сваёю праўдаю пра Хрыста Укрыжаванага й пра Ягонае Уваскрасеньне! І зразумела, бо душа нашая нічога так не жадае, як веры ў Уваскрасеньне, веры ў перамогу жыцьця над смерцю, веры ў трыюмф Праўды, Дабра, Любові, Справядлівасьці. Так, толькі гэтая вера ў жыцьцё вечнае, гэтая Вялікодная радасьць здольная падняць нас над усякімі бедамі, над усякім злом нашага штодзённага жыцьця, перамагаючы цемру няцнотаў, натхніць на змаганьне за Сьвятло, Праўду й Свабоду Божую й нашую, падняць да Неба.

І мы бачым, якія вялікія чыны, якія цуды тварыла гэтая Вялікодная радасьць, гэтае адкрыцьцё нам дзьвярэй Раю для жыцьця вечнага на працягу 20-ці вякоў, пачынаючы ад першых хрысьціян!

Многа тут было слаўных вояў Хрыстовых, якія „Ад усяго зямнога адмаўляліся, лічылі яго за нішто, каб толькі быць з Хрыстом" (Філ. 3, 8). Яны ўкрыжоўвалі сябе з Хрыстом, каб разам зь Ім уваскрэснуць" (Гал. 2, 20). Так, усе яны сваім жыцьцём, сваім сьветлым абліччам гаварылі кожнаму: Няма ніякіх прычынаў да суму, бо: ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Нажаль, мы цяпер перажываем часы многа горшыя за часы перасьледу першых хрысьціян. Што мы цяпер бачым на сьвеце? Мы бачым цяпер ня толькі рэкі крыві вояў Хрыстовых, але й прадсказанае Ім адступленьне ад Веры (2 Сал. 2, 3). Аднак, і цяпер няма месца для роспачы, бо ўжо прарок сказаў: „Уваксрэсьне Бог, і рассыплюцца ворагі Яго, і ўцякуць перад Абліччам Ягоным усе, што ненавідзяць Яго" (Пс. 68, 2). Таму гэтая радасьць Уваскрасеньня Хрыстовага дае нам сілы перамагаць усякія цяжкасьці цяпер і ў будучыні. Вось жа, аднаго толькі мы павінны баяцца: свайго адступленьня ад Хрыста, аслабленьня свае Веры. Таму, дарагія дзеці нашыя, будзем цьвёрдыя ў Веры, будзем палымянна любіць Яго, Хрыста, Бога й Спаса нашага, нашую родную, любую, Сьв. Б.А.П. Царкву, нашую пакутніцу Маці-Беларусь, і нашая Вялікодная радасьць будзе поўная.

Хрыстос памер, ляжаў у цёмным Гробе, а чым стаўся для нас Гроб гэты? Нашая сьв. Праваслаўная Царква кажа: Ён стаўся для нас сьвятлейшым і слаўнейшым усякага царскага палацу! У ім кожная веруючая душа бачыць дзьверы свае да Неба, сваю радасьць незямную, сваю сілу, сваё спасеньне! Цёмным гробам усё яшчэ ёсьць нашая любая Радзіма, там усё яшчэ плач, там яшчэ стаіць старожа багаборцаў. Аднак, наш Трэйці Дзень ужо блізкі, бо там ужо ня толькі багаборцы, але й Ангелы сьветлыя! І скора яны абвесьцяць усяму нашаму Народу Волю Божую: Вашай пакутніцы Маці-Беларусі ў гробе ўжо няма, яна ўжо ЎВАСКРЭСЛА; Уваскрэсла, бо на сваёй галгофе ня страціла Веры ў Прадвечнага, Усемагутнага, Любові поўнага Бога, Спаса нашага! Уваскрэсла, бо Праўды Божае схаваць у гробе ня можна! Уваскрэсла, бо споўнілася поўня часу: скончылася доўгацярплівасьць Божая, прыйшла пара асудзіць зьвера!

Аб гэтым апавяшчае нашая Сьв. Б.А.П. Царква ўсім вам, сыны й дочкі Вялікага Беларускага Народу ўсюды: дома, на катаргах, высылках і выгнаньнях, і ўсклікае: Радуйцеся! Натхнёна сьпявайце Хвалу Пераможцы над сьмерцю, пеклам, злом, няпраўдаю, цемраю, паняволеньнем, радасна ўсклікайце: ХРЫСТОС УВАСКРОС! ЗАПРАЎДЫ УВАСКРОС! АЛІЛУЙЯ! Зьбліжаецца наш Вялікі Беларускі Дзень: Уваскрэсьне нашая любая пакутніца Маці Беларусь!

І ў гэтай Вялікоднай радасьці, як прамяньнях Любові й Ласкі Божае, вітаем вас усечэсныя Айцы, любыя Браты й Сёстры, і ўвесь

наш Беларускі Народзе, зь Вераю й Надзеяй, як вашыя Архіпастыры, зь Вялікім, Радасным і Сьветлым Сьвятам над Сьвятамі, нашаю славаю й спасеньнем: УВАСКРЕСНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ — ВЯЛІКАДНЕМ!

Няхай Любоў, Ласка й Багаславенства Уваскросшага Спасіцеля нашага ўзмацняюць вас на добрых шляхох вашых, і напаўняюць вас вераю й надзеяй, што неўзабаве ўсе мы натхёна будзем славіць Яго, Бога нашага, у Вольнай і Незалежнай Беларусі нашай! Тым болей будзем радавацца й весяліцца, узаемна абыймаць адзін аднаго, абдорваць Вялікоднім пацалункам, бо: ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Ласка й Супакой Госпада нашага Хрыста, Любоў Бога й Айца, і Прычасьце Сьвятога Духа няхай будзе з усімі вамі. АМІНЬ.

Дана Году Божага 1969
месяца красавіка
Аўстралія-Амэрыка-Канада.

**✠ Сьмірэнны Архіепіскап СЕРГІЙ**
**✠ Сьмірэнны Архіяпіскап ВАСІЛІ**
**✠ Сьмірэнны Епіскап АНДРЭЙ**
**✠ Сьмірэнны Епіскап МІКАЛАЙ.**

## МАЛІТВА

**Прэпадобнага Айца Васіля, прачытаная ім кангрэсе ЗША з нагоды**

**51-х Угодкаў Акту 25-га Сакавіка**

У імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа. Усемагучы Божа, Ойча наш Нябесны! Ты наш Творца, Вукыцель і Судзьдзя. Мы молім Цябе, кіруй намі на кожным кроку нашага жыцьця, збаві нас ад усякіх людзкіх слабасьцяў, недахопаў.

Божа Вечны! Багаславі гэты пашаны годны Кангрэс Злучаных Штатаў Амэрыкі! Дух сяброў яго ўзмоцні мудрасьцю, сэрцы іх напоўні любоўю, а чыны мужнасьцю й справядлівасьцю.

Міласьцівы Божа! Мы молім Цябе ў гэтыя 51-ыя Угодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі: пашлі Ласку Тваю Яе народу. Узмоцні веру яго ў Тваё бязьмежнае Міласэрдзе, падтрымай яго ў яго-ных пакутах, аднаві свабоду.

О, Божа Вялікі! Прыймі гэтую Малітву нашую, багаславі Злучаныя Штаты Амэрыкі, Беларусь і яе паняволены Народ. Амін.

## ЧАМУ МЫ БУДУЕМ СВАЕ ЦЭРКВЫ Ў ІМЯ ЖЫРОВІЦКАЕ МАЦІ БОЖАЕ

У наступным, 1970 г., мы будзем адзначаць вялікую, Богам багаслаўленую падзею ў Беларусі: 500-ыя Угодкі зьяўленьня Цудатворнага Абраза Прачыстае Маці Божае ў Жыровіцах. У сувязі з гэтым нашая Сьв. Б.А.П. Царква рыхтуецца выдаць Каляндар, прысьвечаны гэтай вялікай падзеі на славу Прачыстае дзеля на дабро й радасьць нашую. Таму мы ўжо цяпер падаем тут дзеякія ведамкі да гэтага нашага слаўнага Юбілею.

Няма хіба нікога ў Беларусі, хто бы ня чуў аб Жыровіцах. Уславіў гэтую малую мясьціну Цудатворны Абраз Прачыстае Маці Божае. Жыровіцы й ваколіцы іх належалі тады да слаўнага роду Беларускіх Праваслаўных магнатаў Солтанаў. І, вось, у часы аднаго зь іх, Аляксандра, здарыўся блізка Жыровіцаў вялікі цуд.

Дзеці, што пасьвілі статак каля лесу блізка Жыровіцаў, раптам убачылі аднойчы вялікае зьзяньне, што выходзіла з дубровы. Моцна зьдзіўленыя, яны пасьпяшылі туды, і там на грушы пабачылі Абраз Нябеснае Валадаркі, зь якога й выходзіла гэтае зьзяньне, ясьнейшае за праменьні сонца. У страху яны апусьцілі вочы, не адважыліся падыйсьці бліжэй да Абраза, але па нейкім часе сьвятло згасла. Тады яны падыйшлі да Абраза, упалі на калені перад Ім, памаліліся, і зьнялі Яго з грушы.

У тым часе ў нас была паншчына, таму пастушкі панясьлі Абраз свайму гаспадару — Аляксандру Солтану, і аддалі Яго яму. Солтан выслухаў іх, узяў Абраз і замкнуў Яго ў шкатулку як вялікую каштоўнасьць. Скора ён паведаміў аб гэтым сваіх знаёмых і запрасіў іх да сябе. Калі госьці сабраліся, ён расказаў ім усё, што пачуў ад пастушкоў, і адчыніў шкатулку, каб паказаць ім гэтую Сьвятыню. Але на ягонае вялікае зьдзіўленьне Абраза там ня было! Моцна перапалохаўся пабожны Солтан, анямеў ад страху, бо-ж яшчэ ўчора ён бачыў Абраз у шкатулцы!

А тымчасам неўзабаве пастушкі зноў пабачылі Абраз на той самай грушы з тым самым зьзяньнем! Яны зноў зьнялі Яго й зноў прынясьлі свайму гаспадару, але Солтан палічыў сябе ўжо ня годным трымаць гэтую Сьвятыню ў сваім доме. Таму ён узяў Абраз і вырашыў пабудаваць Царкву на тым месцы, дзе Ён зьявіўся. Неўзабаве ўжо стаяла сярод лесу драўляная Царква Імя Маці Божае, і туды быў перанесены Цудатворны Абраз.

Царква стаяла там некалькі дзесяткаў гадоў. Мноства народу прыходзіла туды пакланіцца Абразу, памаліцца перад Ім. Часта здараліся цуды: многа хворых паздаравела, многія зьняможаныя духова ўзмацняліся Ласкаю Прачыстае, адыходзілі поўныя супакою, уцехі, надзеі.

У 1470 годзе гэтая драўляная Царква з Божага допусту згарэла. Пажар быў такі раптоўны, што ў адну хвіліну полымя абняла ўсю Царкву, і вынясьці зь Яе нічога не змаглі. Людзі сумавалі, плакалі, бо ўважалі, што й Цудатворны Абраз згарэў. Але сталася інакш. Скора на тымсамым месцы, дзе стаяла Царква, дзеці зноў пабачылі зьзяньне Абраза Прачыстае, якая стаяла на камені. Дзеці не адважыліся самі падыйсьці да Абраза, і пабеглі сказаць аб гэтым бацьком. Бацькі зразумелі, што гэта той самы Абраз Прасьвятое Багародзіцы, і паведамілі аб гэтым сьвятара. Калі-ж сьвятар прыйшоў зь

людзьмі, то ўсе пабачылі, што на камені гарэла сьвечка. Падыйшлі бліжэй і пераканаліся, што гэта й ёсьць той самы Цудатворны Абраз Маці Божае, і што Яна стаяла тут у постаці чалавека, бо на камені быў сьлед ад нагі Яе. Цяпер усе зразумелі, што пажар навет не дакрануўся да Абраза, і Ён зноў зьявіўся. Спачатку Абраз быў перанесены ў дом сьвятара, а пазьней, калі на тым самым месцы была пабудаваная мураваная Царква, туды быў перанесены й Цудатворны Абраз.

Ад таго часу Жыровіцы пачалі разбудоўвацца, пашырацца. Пачалі прыбываць сюды масы паломнікаў ня толькі з усіх канцоў Беларусі, каб пакланіцца Цудатворнаму Абразу, але пачалі маліцца перад Ім і ўсе беларускія магнаты ды навет польскі кароль Ян-Казімер наведаў Жыровіцы і надаў ім „Магдэбурскае права". З 1739 году гаспадарамі Жыровіцаў сталіся вуніяты, якім польскія ўлады перадалі Царкву. І гэта прадаўжалася да трэйцяга падзелу Польшчы, пасьля чаго Цудатворны Абраз зноў перайшоў да праваслаўных. Ужо ў 1828 г. ў Жыровіцах была адчыненая Духоўная Сэмінарыя, пазьней пераменена на Гімназію. У пазьнейшыя часы ў Жыровіцах было пяць Цэркваў: Усьпеньня Прасьвятое Багародзіцы, Лаўра, Царква на камені — Кальварыя Сьв. Крыжа, Царква сьв. Юрыя на могільніку, і Сэмінарская Царква.

За часоў польскае акупацыі некаторыя Жыровіцкія Сьвятыні былі зноў адабраныя ад праваслаўных, і там-жа ў маёнтку была ралейная школа. Пасьля другое сусьветнае вайны там зноў была адчыненая Духоўная Сэмінарыя, але некалькі год таму яна была зачыненая бязбожнымі ўладамі.

Як бачым, лёс Беларускае Сьвятыні вельмі падобны да лёсу Беларускага Народу, які перажыў і перажывае розныя акупацыі чужынцаў. Але будзем верыць, што калі нашая Нябесная Апякунка зьявілася нам у Жыровіцах, каб мець нас у Ласцы Сваёй, то прыйдзе час, калі Яна паможа нам вызваліцца з чужацкае няволі, каб наш Народ мог свабодна й натхнёна славіць Яе, як сваю Нябесную Заступніцу й Валадарку ўжо назаўсёды.

Тут-жа, на выгнаньні, мы маем поўную магчымасьць, безь ніякага перасьледу, сваімі гарачымі малітвамі прасіць Яе, Жыровіцкую Маці Божую, каб Яна ўмаліла Сына Свайго, Бога й Спаса нашага Ісуса Хрыста, каб Ён прысьпешыў час вызваленьня нашае любае пакутніцы Маці Беларусі!

Будзем жа бязупынна й горача маліцца да Жыровіцкае Маці Божае, як маліліся й моляцца да Яе нашыя пабожныя мацяркі: „Вось прынясла Табе, Матанька, рушнічок чысьценькі, беленькі, вышыты, свае работы. За ўсе ласкі атрыманыя ад Цябе, ахвярую Табе тут, у Жыраве, на сьвятым месцы".

Так, розныя ласкі ад Яе, Маці Божае, былі атрымоўваныя, і Жыровіцкі Цудатворны Абраз Яе стаўся вялікаю Сьвятасьцю Беларускага Народу. Яго славілі раней, славяць і цяпер, ды ня толькі Беларусы, ды ня толькі праваслаўныя, але й народы іншых вераваньняў, што становяцца на калені перад Ёю.

Вось чаму й тут, на чужыне, не забываючыся на нашую Нябесную Апякунку, і пасылаючы да Яе свае малітвы з рознымі просьбамі, Вы, у часе будовы свае Сьвятыні-Царквы, і выбралі Яе, Жыровіцкую Маці Божую, сваёю Патронкаю. ✠ **Епіскап АНДРЭЙ**

## ПРАСЬВЯТАЯ ДЗЕВА МАРЫЯ НАШАЯ БАГАРОДЗІЦА

„З Цябе радуецца, Дабрадатная, усякая твар, ангельскі сабор і чалавечы род". Такі слаўны гімн пяе нашая Сьв. Праваслаўная Царква Прасьвятой Дзеве Марыі, Багародзіцы, многа разоў у часе Службаў Божых. А падобных гімнаў Ёй ёсьць многа. Успомнім сабе хоць бы такі гімн Ёй як „Дастойна ёсьць", першая частка якога — словы ангельскія ды такі гімн як „Багародзіца, Дзева, радуйся", амаль усе словы якога ангельскія. Усе гэтыя словы — музыка, краса, мудрасьць і сіла Нябёсаў. Яны гавораць нам, што Прасьвятая Дзева Марыя запраўды ад правеку была выбраная Богам стацца годнаю Маці Сына Божага, Госпада нашага Ісуса Хрыста, пра якую ўжо прарок сказаў: Вось царыца стаіць праваруч Цябе, Госпадзі, убраная ў рызы пазалочаныя!

А словы Архангела Гаўрыіла ў часе Дабравешчаньня: Ня бойся, Марыя, бо Ты знайшла Ласку ў Бога, багаслаўленая Ты між жанчын, зьбліжаюць нас да Яе, як да Маці ўсяго роду хрысьціянскага! Таму, хто зь любоўю прыходзіць да Яе, ніколі не адыходзіць без падарунку, бо заўсёды атрымоўвае Ласку Яе: уцеху, радасьць, сілу, надзею на ўсынаўленьне Божае й жыцьцё вечнае, бо-ж Яна Нябесная Заступніца нашая перад Прастолам Умілаванага Сына Айца нашага Нябеснага.

Аб жыцьці Прачыстае Маці Божае многа гаворыцца ў Сьв. Евангельлі, але яшчэ больш у Сьв. Пераданьні ды ў традыцыях усіх хрысьціянскіх народаў, а можа найбольш нашага Беларускага Народу, асабліва-ж у зьяўленьнях Яе Цудатворных Абразоў на Радзіме нашай, пачынаючы ад Эфэскага ў Полацку, які быў падараваны прп. Еўфрасіньні ў Канстантынопалі імпэратарам і патрыярхам у XII стагодзьдзі. Асабліва-ж мілы й дарагі нам Жыровіцкі Цудатворны Абраз Прачыстае, бо-ж тут Яна Сама з Ласкі Свае зьявілася нам у XV ст. Мы нязвычайна цешымся й з зьяўленьня Яе нам нядаўна ў Заблудаве, дзе Яна, Прасьвятая Багародзіцца, пацяшала Беларусаў, і заклікала іх быць вытрывалымі й моцнымі ў Веры, мужна пераносіць усякія крыўды, бо скора Ісус Хрыстос зьнішчыць усякае

зло, усякую крыўду, паняволеньне, установіць Дабро, Праўду, Любоў, Справядлівасьць, Свободу.

І нам трэба рабіць ўсё магчымае, каб нашыя дзеці добра ведалі ўсе падзеі з жыцьця Прасьвятое Багародзіцы ды Ісуса Хрыста, па прыкладу нашых пабожных продкаў, а таму й былі належна падрыхтаваныя да кожнага Сьвята Господняга й Багародзічнага ня толькі наведваньнем Царквы, але й сваім жыцьцём. Добрым прыкладам тут ёсьць Сама Прачыстая Дзева Марыя, якая ад трох год ужо прабывала ў Ерусалімскім Храме, каб стацца дастойнай для выпаўненьня Волі Божай, а Сын Яе, Хрыстос, ужо ў 12 год ведаў Сьв. Пісаньне лепш за дактароў і вучыцялёў Закону Божага, і дзівіліся ўсе яны розуму Яго.

І сказала Марыя: Вялічай душа мая Госпада, бо адгэтуль шчасьліваю будуць называць, славіць мяне, усе роды (Лк. 1, 48). Так, Прасьвятая Дзева Марыя вышэйшая за Херувімаў і слаўнейшая за Серафімаў, найвышэйшых Ангелаў, таму, вось, Ёю хваліцца, зь Яе радуецца, Яе славіць і чалавечы род, і наш Беларускі Народ. Дык узьвялічым Прасьвятую й мы, Беларускія эмігранты, належнай Ёй славай, як Нябесную Заступніцу нашую, як нашую Патронку й Валадарку, як нашую цудоўную Матаньку, якая падаравала нам Свае Цудатворныя Абразы ў многіх месцах нашае Радзімы, асабліва-ж у Жыровіцах у 1470 годзе, 500-ыя Угодкі якога мы натхнёна будзем славіць у 1970 г.

**А. Асіповіч**

## ПОМНІ...

У сьв. Евангельлі чытаем: „Ён, Хрыстос, аздараўляе нядужых, немачных, сьляпым дае зрок, пракажоных ачышчае, памёршых ажыўляе, прапаведуе паняволеным волю-свабоду" (Лк. 4, 18).

Вось для чаго Хрыстос таксама прыйшоў на зямлю: тварыць дабро, немачным, калекам даць помач, аздаравіць іх, каб і яны радаваліся зь вялікае Ласкі Яго. А што значыць: паняволеным даць свабоду? Як цяпер, так і тады моцныя выкарыстоўвалі сваю сілу далёка не для дабра ўсіх. Наадварот, гэтаю сваёю сілаю яны, дзе толькі можна было, паняволівалі часта цэлыя народы, рабілі іх сваімі нявольнікамі, рабамі. Гэта людзей, якіх Бог стварыў на вобраз і падобу Сваю, і даў ім свабоду! Ясна, гэта вялікі грэх, таму Хрыстос і прапаведваў свабоду паняволеным!

І ня толькі прапаведваў, але, каб і такія панявольнікі апамяталіся, пакаяліся як словам, так і чынам: адпусьцілі зьняволеных на свабоду, Ён, Хрыстос, расказаў пра Свой Страшны Суд, пра долю праведнікаў направа, і грэшнікаў налева. А цяпер няхай кожны запытае сябе: дзе я буду тады? На парозе жыцьця й шчасьця вечнага, ці на парозе нявымоўных і вечных пакутаў? Гэта словы ня нашыя,

а Самога Госпада (Мц. 25, 34-46). Ці не задрыжыш ты перад такою сваёю магчымаю будучыняю з пакутамі вечнымі, калі не зьвяртаеш увагі на гэтую Божую перасьцярогу? Ці ня можаш ты палымяна палюбіць Госпада Бога, а гэтым і брата свайго як САМОГА СЯБЕ?

Але, чаму-ж гэта сярод нас ня толькі спрэчкі, але й сваркі, і варожасьць, адкрытыя пагрозы, ілжа, жаданьне спрычыніць навет брату свайму прыкрасьць, зло? І калі гэта робяць сьвецкія людзі сваім языкам, то гэта адзін грэх, але калі гэта робяць духаўнікі, то гэта ўжо зусім іншы грэх! А калі гэта робіцца ў прэсе, да таго ў ЦАРКОЎНАЙ прэсе, то гэта ўжо грэх, што выклікае помсту Божую! Калі брат твой думае й дзее крыху іначай, чымся ты, то няўжо-ж трэба быць ужо ворагам яго, і такім чынам ставіць сябе да тых налева, на сваю пагібель вечную? Бо-ж сьв. Апостол і Багаслоў Іоан кажа: „Хто ненавідзіць брата свайго, той ДУШАГУБ, а вы ведаеце, што ані адзін душагуб ня мае жыцьця вечнага ў сабе" (1 Іо. 3, 15).

Таму помні, як вагню высьцярагайся такіх душагубаў, бо яны ня маюць нічога супольнага з Тым, Хто прапаведваў і прапаведуе любоў навет да няпрыяцеляў, ворагаў нашых. Таму такі душагуб сваёю злобаю поўнасьцю адхіляе ад сябе тую Прачыстую Руку, якая была прабітая на Крыжы таксама душагубамі, вось жа, братамі тых, што выдаюць вядомы „Царкоўны", быццам, „Сьветач"! Мусіць яшчэ ня было аднаго нумару яго, каб ён не пашыраў такую „царкоўную" ежу, як злоба, нянавісьць, ілжа, бруд.

Вядома: Па пладох іх пазнаеце іх! Ніколі з бруднае крыніцы не пацячэ салодкая вада! Гэта так. Аднак, калі адтуль цячэ толькі такая брудная вада, то-ж такую крыніцу заўсёды можна засыпаць, каб яна ня сеяла, не пашырала зла, варожасьці, нянавісьці да брата свайго.

Мы радуемся й ганарымся тым, што Гасподзь Бог з Ласкі Свае падараваў нам вялікі скарб: нашую Сьв. Б.А.П. Царкву. Абсалютная бальшыня нашае эміграцыі радуецца зь Яе, і слушна, бо Яна памагае нам, згодна з Навукаю Хрыстоваю, духова вызваляцца з палону, цяжкога адвечнага палону! Мы ведаем, што ніхто зь людзей не паможа нам тут, што гэтую цяжкую працу мы мусім правясьці самі, ясна, з дапамогаю Божаю, што мы й робім. Уся нашая тысячагадовая царкоўная традыцыя, ад якой мы ніяк адрачыся ня можам, гавораць нам аб цяжкім змаганьні нашага Народу за сваю ўласную, незалежную, Аўтакефальную Праваслаўную Царкву! Сколькі тысячаў, калі не міліёнаў духаўнікоў і міран аддалі свае жыцьцё за Яе! І зразумела, бо-ж без свае Царквы няма нацыі, а гэтым і свае дзяржавы!

І дзеля гэтага справа нашая нязвычайна цяжкая. Цяжкая, бо тыя, што маюць уладу, не глядзяць на Навуку Хрыстовую, а навет

і на царкоўныя правілы, а толькі на свае дзяржаўныя, манапольныя інтарэсы. Мы гэта добра ведаем з свае гісторыі, таму мы й выбралі, хоць і цяжкі, але свой шлях, які поўнасьцю ў згодзе з Навукаю Божаю: свабода паняволеным, а ўсякая свабода пачынаецца ад духовае свабоды! І гэты свой абавязак перад Богам і сваім Народам мы, па меры сілаў нашых, выконваем.

О, мы ведаем, гэта не падобаецца многім нашым адвечным ворагам, і мы разумеем іх. Яны й цяпер, пасьля вялікіх папярэджаньняў Божых, дзеюць паводля прынцыпу: душы іх, не пускай! Добра, на іх гневацца цяжка, бо такая ўжо зьвярыная прырода ў іх. Але як тут зразумець нашых душагубаў? Яны-ж па крыві беларусы. Здавалася-б, не падабаецца вам нашая Сьв. БАПЦарква, добра, будуйце сабе сваю, калі можаце, мы вам не перашкаджаем, таму пакіньце й нас у супакоі. Але-ж не! Папершае, ніякае свае Беларускае Царквы яны не збудуюць, бо на гэта ім іхныя гаспадары не пазволяць, а падругое, паколькі яны духовыя рабы, і ня маюць навет намеру вызваліцца з гэтага свайго рабства, таму яны ня могуць спакойна глядзець на нашую самаахвярную, свабодную, Богу мілую працу. І, вось, так, згодна з навукаю Апостала, яны становяцца душагубамі: самі будуюць сабе шлях у . . . пекла, і стараюцца пацягнуць за сабою туды дзеякіх нясьведамых людзей на радасьць ворагаў нашых.

Таму, браце, ці сястра, помні: на злобу іх адказвай яшчэ большаю любоўю да нашае вялікае справы: да нашае Сьв. Б.А.П. Царквы, якую нам падараваў Сам Бог, і Ён за гэтую тваю любоў і самаахвярнасьць узнагародзіць цябе на зямлі й на Небе, а наш пакутны Народ у свой час прыгожа падзякуе табе, што ты пайшоў, ці пайшла па цяжкому шляху змаганьня за свабоду паняволеных, у нашым выпадку за Свабоду Беларусі! **С. К.**

## СЛУЖЭНЬНЕ НАРОДУ
## КАНСТЫТУЦЫЯ

Таму, што мы атрымалі шмат розных заўвагаў адносна нашага апошняга артыкулу на гэтую тэму, лічым неабходным яшчэ раз, з другога боку, таксама тымчасам багаслоўскага, глянуць на яе, як на Божае й людзкае заканадаўства — фундамант Канстытуцыі.

Мы тут зьвернем увагу на дабрадзействы Законаў Божых, а таксама на слабасьці, вялікія недахопы людзкіх законаў, каб кожны здарова думаючы чалавек і цэлы народ змог здабыць належныя веды, а гэтым і выкарыстаць свой розум і сваю волю для свайго запраўднага дабра й шчасьця. Таму мы тут пакажам, якія дабрадзействы дае нам Божае Заканадаўства, а пры гэтым адначасна пабачым і тое зло, якое паўстае зь людзкіх законаў.

Мы ўжо тут успаміналі філёзафа Платона таму, што ён верыў

у Адзінага Бога. Нажаль, ён Яго яшчэ ня ведаў так, як мы цяпер. пасьля Хрыста, ведаем, але сваім вялікім, чыстым розумам, як пасьля Кант, прыйшоў да вываду, што мы маем душу, якая паходзіць ад Бога, і створаная для дабра й жыцьця вечнага. Таму, казаў Платон, законы, якія паходзяць ад Бога, у аснове сваёй дасканальія, і дзеля гэтага вядуць нас да нашае мэты: дабрабыту, красы, радасьці й шчасьця. Таму, казаў, ён, людзі й народы, якія карыстаюцца Законамі Божымі, жывуць між сабою ў згодзе й супакоі, тады як людзі й народы, якія гэтых Законаў Божых ня маюць, і карыстаюцца сваімі ўласнымі законамі, нямінуча пашыраюць варожасьць, нянавісьць, войны. Ужо гэта гаворыць аб шкодзе людзкіх законаў, якія ніколі не прывядуць нас да асновы вялікага дабра: справядлівасьці. У выніку гэтага, казаў ён, насільле, няпраўда й войны ўсюды цьвітуць і будуць цьвісьці далей. І мы цяпер бачым, што ён казаў праўду. Але, ягоны чысты розум, як пасьля й ,,Крытыка Чыстага Розуму'' Канта, запраўды былі блізка Бога.

Нажаль, як некалі Іудэі ў пустыні забыліся на Ласку Божую й вымагалі ад Майсея павароту ў Эгіпскую няволю, бо ім захацелася цыбулі й часныку, так і цяпер амаль усе народы, дзеля свае засьлепленасьці, імкнуцца да цыбулі й часныку: часовых другарадных матар'яльнях выгодаў і ўцехаў, за што пасьля плацяць нявымоўнымі бедамі, рэкамі крыві, горамі трупаў, бо забываюцца аб тым, што першае, галоўнае, неабходна пасставіць на першае месца, тады тое другое: дабрабыт, радасьць, шчасьце, як Багаславенства Божае, само прыйдзе.

Дабрадзействы, кажа Платон, падвойнага характару. Боскія й людзкія. Людзкія дабрадзействы гэта: здароўе, краса цела, мужнасьць і багацьце, а гэтае апошняе, каб запраўды быць дабрадзействам, вымагае здаровага розуму, мудрасьці, іначай яно можа стацца нашым няшчасьцем. А тымчасам першым Божым дабрадзействам, кажа ён, ёсьць здаровы розум, мудрасьць, а далей ужу йдуць: справядлівасьць, здароўе, мужнасьць, дабрабыт, багацьце. Вось жа, тут зусім іншая іерархія вартасьцяў, якія мы цяпер можам назваць вартасьцямі цела й душы. Як бачым, Платон гаворыць нам аб Праўдзе Хрыстовай: душа бясконца даражэйшая за цела! Бо-ж цела залежыць ад душы, а не наадварот, што, нажаль, і цяпер практыкуюць засьлеплыня людзкія законадаўцы, таму людзі й народы й цяпер у цемры прабываюць. Ужо Платон тут вучыць нас, што меншае залежыць ад большага, таму, калі мы карыстаемся большымі, Божымі дабрадзействамі, то меншыя сьледуюць за імі, па слову Хрыстоваму: ,,Шукайце ў першую чаргу Царства Божага й Праўды Яго, а ўсё іншае прыложыцца вам'' (Мц. 6, 33).

Вось жа, Божае Законадаўства мае на ўвазе ў першую чаргу

большыя дабрадзействы, дабрадзействы душы й духа: здаровы розум, мудрасьць, праўду, справядлівасьць, свабоду, на якіх, як на добрай глебе, вырастаюць дабрадзействы цела: здароўе, мужнасьць, дабрабыт, багацьце, а гэтым і шчасьце. Тады як людзкое заканадаўства, якое ставіць на першае месца дабрадзействы цела, пакідае без увагі дабрадзействы душы й духа, і ў выніку гэтага прыходзіць тое, што цяпер і бачым усюды: гора, бяда, замест шчасьця, як Багаславенства Божага.

І ўсякае заканадаўства, якое ня ставіць на першае месца дабрадзействы душы, а гэтым і нашага здаровага розуму, мудрасьці ня ёсьць ад Бога, а таму й фальшывае, і шкоднае й для самога цела. Але гэта ўсё толькі першыя крокі нашага жыцьця. Ёсьць рэчы многа важнейшыя. Законадаўства, якое даў нам Бог праз Ісуса Хрыста, мае й дае нам многа большыя дабрадзействы, бо жыцьцё вечнае! Вось жа, дабрадзействы найвышэйшыя, бо нашае Абожаньне! Гэтыя добрадзействы Божага Законадаўства твораць здаровыя суадносіны між намі й Богам ды між людзьмі й народамі, бо яны памагаюць нам здабыць: мудрасьць, любоў, і сілу, справядлівасьць, ветлівасьць, праведнасьць, сьвятасьць, багаславенства, несьмяротнасьць. Так, Божае Законадаўства памагае нам быць вобразам і падобаю Бога!

Няхай ніхто не падумае тут, што гэта только для добрых, праведных людзей магчыма, бо Божае Законадаўства бярэ чалавека з усімі яго недахопамі, грахамі, ачышчае яго ад іх, і ўпрыгожвае красою Неба, калі толькі мы зьвернемся да Яго, як да Айца свайго. Тады мы атрымоўваем ад Яго такі дыямант як мудрасьць, пазнаньне таго, што добрае, а што благое для нас, а ў першую чаргу пазнаньне добрадзействаў Божых, дасканаласьці Законаў Яго. О, тады мы ўжо як вагню высьцярагаемся ўсякага зла, жаданьня спрычыніць другому шкоду, прыкрасьць, наадварот, з радасьцю робім ужо толькі адно: дабро.

Божае Законадаўства таксама адпавядае як нашай людзкой прыродзе, так, і Волі Яго. Мы ведаем з жыцьця, што чалавек стала стараецца здабыць веду, пазнаць тое, што патрэбнае яму. Ён стала стараецца здабыць сілу для асягненьня сваіх мэтаў. Хоць ён ведае, што мусіць памерці, аднак, хоча жыць вечна ды жыць, ясна, у супакоі й радасьці. І ўсё гэта ён можа мець праз Божае Законадаўства. Сваім злучэньнем з Богам ён можа здабыць вялікія веды, стацца мудрым. Сваім злучэньнем з Богам ён можа стацца добрым, справядлівым. Праз Усемагутнага Бога ён можа здабыць сілу, стацца здольным асягнуць усё, чаго ягоная добрая й мудрая душа пажадае. Ясна, праз Вечнага Бога ён можа здабыць сабе нявымоўна радаснае й вечнае жыцьцё. Словам, ён можа стацца падобным Ісусу Хрысту, бо такая ёсьць сьвятая Воля Яго. З гэтага мы бачым, што Божае Зако-

надаўства поўнасьцю адпавядае нашай прыродзе, а таксама нашаму прызначаньню, якое Усявышні ўстанавіў у Сваім Пляне для нас. Таму кожнае незасьлепленае вока можа ясна бачыць усю красу Божага Законадаўства для нас, а ў ім добрага, дасканалага Законадаўцу, Каторы прыгатаваў для нас столькі цудоўных дабрадзействаў, каб нас умудрыць, радасьцю напоўніць, зрабіць шчасьлівымі.

З другога боку, у сьвятле гэтых дабрадзействаў Божых мы можам таксама пабачыць усю бяду таго людзкога законадаўства, якое ня ведае, ня бачыць Бога. У чым найбольшая бяда яго? Нехта можа тут сказаць: як, бяда людзкага законадаўства, якое мае на ўвазе нашае дабро? Зараз пабачым гэтае „дабро", таму зноў пытаем: якая найбольшая бяда яго? Адказ: тая, што яно НЯ БАЧЫЦЬ Бога! А паколькі ня бачыць, то й ПАКІДАЕ Яго! А тут нам трэба стала памятаць: толькі Бог крыніца ўсякага Дабра, Праўды, Красы, Мудрасьці, Справядлівасьці, Свабоды й Дабрабыту! Так, толькі Ён! Адыход ад Яго гэта адыход ад усякіх цнотаў, духовых скарбаў, гэта жыцьцё поўнае ўсякіх брудаў, усякага зла. За прыкладамі далёка хадзіць ня трэба, даволі глянуць кругом сябе, каб пабачыць, што робіць з чалавека жыцьцё бяз Бога: звычайную жывёлу, горш таго, слугу шатана, годнага толькі для вагню, а не для Абожаньня. Хрыстос прадбачыў гэты духовы ўпадак людзей, таму папяраджаў нас супраць такога няшчасьця, калі казаў: „Ідзеце ад Мяне, праклятыя, у вагонь вечны"!

Дзеля гэтага чалавек, які выступае супраць Божага Законадаўства, выступае супраць свае людзкое прыроды, супраць свайго адухоўленьня, абожаньня, жыцьця вечнага, таму й зьяўляецца ворагам самога сябе, творцам свае бяды, сваіх няшчасьцяў ды ня толькі сваіх. Ён стала незадаволены, злы на сябе самога, на свайго бліжняга, на ўвесь сьвет, і часам ужо ня бачыць ніякага сэнсу ў жыцьці. У тым жыцьці, якое, пры нашым выконваньні Законаў Божых, поўнае ўсякіх дабрадзействаў, багаславенстваў Божых для нас ужо тут на зямлі.

Вось чаму кажны з нас і ўвесь наш Беларускі Народ асабліва цяпер павінен ня толькі пабачыць, але й пазнаць прычыны нашых бедаў, няшчасьцяў ды нашае радасьці, славы й велічы. Прычыны першага — людзкое законадаўства, прычыны другога — Божае Законадаўства. Усякія людзкія навукі аб тым, што найбольшым нашым дабром ёсьць перадусім багацьце, матар'яльная сіла, розныя выгоды, а не злучэньне з Богам, у запраўднасьці ёсьць калечаньнем нашае людзкое прыроды й нашага розуму, упадкам нашага духа, як іскры Божае ў нас, злою прынадою шатана. Нажаль, гэтая злая прынада паняволіла таксама ўсе сучасныя вольныя народы, найбольшаю „мудрасьцю" якіх цяпер ёсьць тэхніка! І найбольшая бяда

іх у тым, што яны ня бачаць сьлепаты свае, а таму й прычынаў сучаснае эпідэміі: узросту праступстваў.

І калі мы возьмем пад увагу хоць бы сучасную Эўропу, якая стаіць на краю бездані, дзякуючы агрэсыўным бязбожным сілам, то, папершае, мы тут бачым поўнае пацьверджаньне нашых разважаньняў, а падругое, навет чалавек з Богам у сэрцы, але духова слаба асьвечаны, скажа: так, супраць гэтых бязбожных сілаў неабходна паставіць такую самую сілу. На першы пагляд ён мае праўду, і мы гатовыя пагадзіцца зь ім. Але, ці гэта запраўдны лек для сучаснага чалавецтва? Вось што кажа тут прарок: „З Богам мы пакажам нашую сілу, бо гэта Ён ворагаў нашых растопча" (Пс. 108, 14). Ясна! Ня нашыя сілы перамогуць бязбожных ворагаў, а Бог, трэба толькі быць зь Ім, трэба толькі палажыць Законы Яго ў аснову ўсяго нашага жыцьця, тады ўсе бязбожныя сілы рассыпляцца як пясок, і сьледу ад іх не застанецца, бо сіла Божая бясконца мацнейшая за ўсякую людзкую зброю!

Цяпер нам яшчэ болей ясна, як мы павінны пабудаваць нашую Вольную й Незалежную Беларусь, што палажыць у аснову нашае Канстытуцыі, каб мы былі шчасьлівыя, моцныя, жылі ў свабодзе, дабрабыце й радасьці, не баяліся ніякіх ворагаў, ды здабылі Абожаньне, жыцьцё вечнае. Гэта Законадаўства Божае. Але для поўнае яснасьці гэтага важнага пытаньня, прыймаючы пад увагу, што кожны мае права на сваю думку, мы тут яшчэ глянем на яго з чыста філязофскага пункту гледжаньня.

(Далей будзе) **С. Клім**

## РОЗНАЕ

● Каталіцкі журнал „Рэджыстэр" зьмясьціў доўгі пратэст каталіцкага архіеп. Камара й сьвятара Каметчара супраць сучаснае ваеннае дыктатуры ў Бразыліі, называючы яе горшаю за камуністычную, і заклікаючы да прыяцельства з . . . Кубаю.

● „Ньюз энд Ворлд Рыпорт" паведамляе, што распачаўся рух савецкіх арміяў над граніцамі Румыніі. Масква плянуе правясьці на яе тэрыторыі „манэўры". А што далей? Далей прыйдуць: Югаславія, Грэцыя, Італія, Албанія, і — Ізраэль.

● Архіеп. Кіпрыян, б. Экзарх Маскоўскага патрыярха ў Нямеччыне, цяпер адкліканы ў Маскву, зьмясьціў у журнале „Савецкі Саюз цяпер" інтэрв'ю зь нямецкім журналістам, дзе кажа: Толькі цяпер у Савецкім Саюзе поўная рэлігійная свабода. Цяпер ня тое, што было за царскіх часоў, калі ўлады тэрарызавалі Царкву. Таму цяпер мы захапляемся (восхішчаемся) маральнымі ідэаламі камунізму . . .

● „Пражская Мірная Канфэрэнцыя", якою кіруе Масква, упала ў „герэзію": яе Прэзыдыюм асудзіў акупацыю Чэха-Славаччыны! У сувязі з гэтым Маскоўскі патрыярх востра асудзіў гэтую „герэзію", кажучы: Са-

вецкія войскі гэтым памаглі Чэхам і Славакам вызваліцца ад . . . контррэвалюцыі.

● А Румынскі патрыярх зьвярнуўся з Пасланьнем да ўсіх Цэркваў, у якім заклікае памагчы Чэхам і Славакам аднавіць іхную нацыянальную свабоду.

● І. Шыллінг зьмясьціў у „Крыст унд Вэлт" (Хрыстос і Сьвет) вялікі артыкул аб супярэчнасьцях палітыкі Папы Паўла VI. Ён кажа: гэтая палітыка мае многа супольнага з палітыкаю Масквы сваёю раздвоенасьцю. З аднаго боку Папа вымагае непарушнасьці Веры й сумленьня, Навукі Хрыстовае, традыцыяў, а з другога выказвае свае сымпатыі да лібэралізму й практыцызму, чым багаслаўляе ўсякія палітычныя камбінацыі навет з атэістамі. З гэтага, кажа аўтар, можа прадбачыць гатоўнасьць Папы знайсьці супольную мову зь мясцовымі ўладамі, якімі бы сталіся ў Італіі . . . камуністы.

● У камуністычнай Югаславіі выданы пераклад Бібліі на сэрбска-харвацкай мове. Біблія выдана шматтысячным тыражом і свабодна прадаецца ўсім: праваслаўным, каталіком і пратэстантам.

# ХРОНІКА

НЮ-ЁРК. АБХОД З КРАШЧЭНСКАЮ ВАДОЮ. Гасподзь Бог наш Ісус Хрыстос сказаў: Вось Я з вамі ўва ўсе дні да сканчэньня веку. Амін Але асабліва Ён з намі ў часе Еўхарыстыі, калі Ён Духам Сваім Сьвятым перамяняе хлеб і віно ў Сваё Прачыстае Цела й Сваю Чэсную Кроў ды ў часе нашага Абходу з Крашчэнскаю Вадою. Так, і цяпер Ён быў дарагім Госьцем нашых вернікаў пры гэтым Абходзе, і праз Уладыку Васіля асьвячаў дамы іх і багаслаўляў сямейкі іхныя на здароўе й радасьць як цела, так і душаў іх. Усе цешыліся й радаваліся, горача дзякавалі Яму, Богу й Спасу нашаму, Уладыцы Васілю ды Сп. М. Тулейку й Сп. Б. Данілюку. Дзякавалі як словам, так і шчодрымі ахвярамі. Слава Госпаду, нашай Сьв. Б. А. П. Царкве, Духавенству Яе, успомненым асобам і ўсім вернікам.

НОВАЯ ЦАРКОЎНАЯ РАДА У БРУКЛІНЕ. Дня 16-га сакавіка адбыўся тут Агульны Перавыбарчы Сход, які выбраў новую Царкоўную Раду ў складзе Спадароў: Інж. М. Горошко — Старшыня, П. Манькоўскі й Б. Данілюк — Заступнікі Старшыні, М. Міцкевіч — Царкоўны Стараста, Я. Груцько — Заступнік яго, М. Тулейко й А. Міцкевіч — Скарбнікі, Б. Данілюк — Сакратар, Валя Яновіч і К. Верабей — сябры. У Рэвізыйную Камісію выбраныя: Сп. Ул. Курыло, Сп. інж. Рагуля, Сп. др. Я. Запруднік і Ю. Касьцюкевіч.

Уладыка Васіль зацьвердзіў і багаславіў гэтую новую Царкоўную Раду й Рэвізыйную Камісію. Жадаем ім плённае працы на славу Божую, нашае Сьв. Б. А. П. Царквы, і на дабро й радасьць усіх вернікаў Яе.

САКАВІКОВЫЯ УРАЧЫСАСЬЦІ У НЮ-ЁРКУ. З Ласкі Божае й добрае працы нашых патрыётаў, і сёлета гэтыя ўрачыстасьці папярэдзілі выданьні Праклямацыяў Губэрнатарамі Штатаў Нью-Ёрк, Нью-Джэрзі, Пэнсыльвеніі, Огаё, Мічыган і інш., і мэра Нью Ёрку аб тым, што Дзень 25-га Сакавіка зьяўляецца Днём Беларускага Народу. Далейшым радасным для нас здарэньнем тут было прачытаньне Малітвы за Амэрыку й Беларусь айцом Васілём Кендышам у Кангрэсе Злучаных Штатаў Амэрыкі.

УРАЧЫСТАЯ СЛУЖБА БОЖАЯ. Яе адправіў у нашым Катэдральным

Саборы Уладыка Васіль у асысьце а. Васіля 23-га сакавіка. Сабор быў запоўнены вернікамі, бо на гэтую нашую слаўную ўрачыстасьць прыбыла амаль уся грамада зь Нью Брансьвіку з сваім Хорам, і многія нашыя вернікі з ваколіцаў. Вельмі прыгожа пяяў узмоцнены Хор пад кіравецтва Сп. А. Каптуровіча. Усе горача й натхнёна маліліся й дзякавалі Госпаду Богу за наш векапомны Акт 25-га Сакавіка. І Уладыка натхнёна вітаў усіх з гэтым нашым вялікім і слаўным Сьвятам. У сваёй пропаведзі ён зьвярнуў увагу вернікаў на тры Цуды Божыя ў Беларусі. Першы Цуд Божы гэта сам факт Абвешчаньня Свабоды й Незалежнасьці Беларусі 25-га Сакавіка. Другі Цуд гэта тое, што імя нашае Беларусі ўсьцяж пашыраецца па сьвеце, ня гледзячы на супраціў дзеякіх ворагаў нашае Незалежнасьці. А дзееца гэта таму, што мы маем магутнага прыяцеля — Госпада Бога, Каторы ясна гаворыць нам: Толькі веруйце, не губляйце надзеі, толькі цьвёрда йдзеце за Мною, і Мая Свабода будзе вашаю Свабодаю, бо Я з вамі! І калі гэтыя два цуды сталіся дзякуючы Ласцы Божай да нас, то нямінуча станецца й трэйці цуд Яго й наш: Канчатковая нашая перамога, поўная Свабода й Незалежнасьць Беларусі!

Служба Божая закончылася Малебнам, Многалецьцямі, „Вечнаю памяцьцю" для ўсіх братоў і сёстраў нашых, што жыцьцё сваё аддалі за Веру й Бацькаўшчыну, і нашым царкоўным гімнам ,Магутны Божа".

Пасьля адбылася вельмі прыгожая Акадэмія ў гатэлі Балцімор, дзе было каля 300 чалавек. Акадэміяй добра кіраваў, пасьля прывітаньня й уступнага слова Старшыні Галоўнае Управы БАЗА Сп. Ул. Курылы, сп. др. Я. Запруднік. З прамовамі выступалі прадстаўнікі Амэрыканскіх уладаў — кангрэсман Морфі й інш. ды паняволеных народаў. Вельмі прыгожая была мастацкая частка я ез танцамі моладзі, але асабліва радаваў усіх наш малады выдатны сьпявак Сп. М. Стрэчань. Акадэмія пачалася Амэрыканскім Гімнам, які прасьпявала Сп-ня Маркоўская пад акампаньямэнт Сп-ні Праф. Э. Зубковіч, пасьля Малітваю а. Васіля Кендыша, прачытанаю ім у Кангрэсе ЗША й багаславенствам Уладыкі Васіля, і закончылася нашым Беларускім Нацыянальным Гімнам.

ВІЗЫТА У ВАШЫНГТОНЕ. Дзякуючы стараньням кангрэсмана Эдварда Паттэна, ягонаму звароту да Кангрэсу ЗША ад 26-га лютага 1969 г., быў запрошаны для прачытаньня Малітвы перад сэсіяў Кангрэсу, у сувязі з Днём Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, настаяцель Прыходу Жыровіцкае Маці Божае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Нью Брансьвіку а. Васіль Кендыш.

Айцец Васіль у суправаджэньні Спадароў: Старшыні Галоўнае Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Уладзімера Курылы, Старшыні БАЗА на Штат Нью Джэрзі Сяргея Гутырчыка, Сакратаркі БАЗА ў гэтым Штаце Элеаноры Гутырчык зьявіліся 20-га сакавіка 1969 г. а гадз. 11.15 ў канцылярыі кангрэсмана Э. Паттэна, дзе адбыўся абмен думак аб Беларусі. Пасьля гэтага ўся нашая дэлегацыя з кангрэсманам Э. Паттэнам і а. Васілём накіравался да Капітолю ў канцылярыю Сьпікера Кангрэсу Джана Мэк-Корміка. Па кароткіх прывітаньнях капэлян Кангрэсу др. Эдвард Лэітч прывёў а. Васіля да трыбуны Сьпікера.

Пасьля фармальнага адчыненьня Кангрэсу Сьпікерам а. Васіль прачытаў Малітву, прысьвячаную 51-ым Угодкам Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Пасьля Малітвы многія кангрэсманы падыходзілі да а. Васіля, знаёміліся зь ім і дзякавалі за Малітву.

У гэты дзень мы былі афіцыйнымі гасьцямі Кангрэсу Злучаных Штатаў. У перапынку нарадаў Кангрэсу а. Васіль з дэлегацыяй быў запрошаны кангрэсманам Э. Паттэнам на абед у кангрэсовым рэстаране. Абед прайшоў у вельмі прыязнай і мілай атмасфэры. Пасьля абеду адбылося спатканьне а. Васіля з Сьпікерам Кангрэсу Джанам Мэк-Кормік у ягоным кабінэце. А. Васіль і нашая дэлегацыя пакінулі Вашынгтон з глыбокімі ўражаньнямі прыемнага побыту ў Кангрэсе ЗША. Сьцьверджана патрэба большага й актыўнейшага ўдзелу ў працы нашых нацыянальных пытаньняў, а таксама працы для дабра нашае сучаснае краіны-апякункі ЗША.

**Прысутны**

МЭЛЬБУРН. Настаяцель мясцовае Парафії БАПЦ а. Аляксандар дня 7-га сьнежня, 1968 г., ахрысьціў Беларуску АНЮТУ, дачку Янкі й Тамары, а дня 4-га студзеня ахрысьціў Беларуса Яфрэма-Мікалая, сына Міхаіла й Сыльвіі. Дня 11-га студзеня, 1969 г., стараньнямі Царкоўнае Рады Сьв. БАПЦарквы тут у добра ведамай залі (на футскрай) была ўладжаная ЯЛІНКА для дзетак і дарослых. Ясна, быў і ДЗЕД МАРОЗ з рознымі падарункамі. Вясёла й радасна прайшоў вечар пад кіравецтвам Сп-ні Тамары. Дня 8-га лютага 1969 г., а. Аляксандар павянчаў маладую пару: Янку й Шэрыл. Было шмат прысутных асабліва з боку маладой: аўстралійцы й шатландцы, якія былі зьдзіўленыя прыгожасьцю Праваслаўных Шлюбаў.



Высокапрэасьвяшчэньнейшых Уладыкаў нашых, Архіепіскапаў СЕРГІЯ й ВАСІЛЯ, Прэасьвяшчэньнейшых Епіскапаў АНДРЭЯ й МІКАЛАЯ, Мітрафорных Пратаіерэяў, Пратаіерэяў, Айцоў, дастойных Рэгентаў і Харыстых, Хвальныя Царкоўныя Рады, Брацтвы й Сястрыцтвы, дзяржаўныя, навуковыя й грамадзкія Установы, чытачоў „Голасу Царквы", усіх вернікаў Сьв. БАПЦарквы, і ўвесь наш Вялікі Беларускі Народ сардэчна вітае з радасным Вялікаднем:

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

**Епархіяльная Управа БАПЦ Амэрыкі й Канады**